# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 22 (356) — Нядзеля, 2 чэрвеня 1957 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 11

# Спадкаемнікі чорнасоценскай рэакцыі

25-27 красавіка сёлета адбыўся ў Гаазе (Галяндыя) «Кангрэс за права і свабоду ў Расеі», скліканы спэцыяльным арганізацыйным камітэтам, фактычна-ж расейскімі салідарыстымі зь ведамай нацыяналістычнай рэакцыйнай расейскай арганізацыі НТС («Национально-Трудовой Союз»). Як гаварылася ў афіцыйных дакумэнтах «кангрэсу», у ім прынялі ўдзел «расейскія палітычныя, навуковыя, грамадзкія дзеячы, дзеячы культуры і мастацтва, што знаходзяцца за мяжой». Пры гэтым, пад «расейскімі дзеячамі» разумеліся людзі розных нацыянальнасьцяў СССР, бо, паводля салідарыстычнай тэрміналёгіі, усе народы, засяляючыя савецкую імпэрыю — гэта «народы Расеі» або «Расейцы», а расейскі народ у этнаграфічным сэньсе — гэта «рускі народ» або «Рускія».

Згодна з гэтым, у «кангрэсе» прынялі ўдзел і навет увайшлі ў склад ягонага прэзыдыюму й некалькі г. зв. «нацыяналаў», як ведамы ўкраінскі Гулай, прозьвішча якога сталася ў Украінцаў сынонімам нацыянальнага рэнэгацтва, або ня менш ведамы ў такім-жа сэньсе армянскі Сааруні. На пацеху нам, на «кангрэсе» не знайшлося аніводнага беларускага «фэдэралістага», відаць, таму, што такіх у Эўропе цяпер ня знойдзеш із сьвечкай, а прывозіць з Амэрыкі нейкага Баранцэвіча, што часта выліве памыі на Беларусаў у «Новым Руськім Слове», або Рэпніна, што калісьці пры выдатнай паддзержцы таго-ж НТС прабаваў тварыць г. зв. «Беларускае Дэмакратычнае Аб'еднаньне», не аплачвалася.

У выніку трохдзённых нарадаў гэтага зборышча было прыняцьце рэзалюцыі «Аб народных патрабаваньнях дадзенага этапу». Скансатаваўшы масавае незадаваленьне «народаў Расеі», усьцяж узрастаючы фэрмэнт, акты супраціву й варожасьці да савецкага рэжыму й камуністычнай сыстэмы, рэзалюцыя на гэтай падставе сфармулявала народныя дамаганьні ў наступных галінах: 1. «У галіне дзяржаўнага й грамадзкага ладу і аховы правоў грамадзян»; 2. «У галіне культуры, выхаваньня і духовага жыцьця»; 3. «У галіне эканомікі, сацыяльнага пытаньня й працы; 4. «У галіне сельскае гаспадаркі»; 5. «У галіне вонкавай палітыкі». Усе гэтыя патбаваньні распрацаваныя да найдрабнейшых дэталяў і выкладаныя аж у 130 асобных пунктах, што, здавалася-б, нічога болей і дадаць было нельга. Але...

Як ведама, адным з найактуальнейшых і найбольш істотных патрабаваньняў нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу, а адначасна найбольш балючых пытаньняў для бальшавіцкае сыстэмы ёсьць нацыянальная праблема. Яна выклікае глыбокае незадаваленьне сярод нерасейскіх народаў і зьяўляецца Ахілесавай пятой для бальшавізму. Гэтага ня могуць схаваць самі бальшавікі, бесьперапынна нападаючы на «буржуазныя нацыяналізмы» і штучна іх зьвязваючы з агентурнай дзейнасьцю амэрыканскае разьведкі. Аб гэтым гавораць і многія перабежчыкі з Савецкага Саюзу, як і заходнія сьветкі, што пабывалі за зялезнай заслонай.

Тымчасам у «народных патрабаваньнях» рэзалюцыі «кангрэсу», да ажыцьцяўленьня якіх, паводля ўдзельнікаў «кангрэсу», імкнуцца ўсе «народы Расеі», г. зн. і Беларусы, і Украінцы, і народы Каўказу, а таксама цюрскія народы, няма ані слова аб патрабаваньнях у галіне нацыянальнай. І гэта ня толькі ў аспэкце дзяржаўніцка-палітычным але навет і ў культурным жыцьці нерасейскіх народаў, якія, як-ні-як, твораць больш палавіны ўсяго насельніцтва Савецкага Саюзу. Гэтае кардынальнае пытаньне для арганізатараў і ўдзельнікаў «кангрэсу» ня існуе ня існавала і існаваць не павінна. Маем такім чынам поўнае паўтарэньне артадаксальна-рэакцыйнага прынцыпу расейскіх чорнасоценцаў царскае Расеі, якія нацыяналную праблему нерасейскіх народаў фармулявалі наступнымі словамі- **«не было, нет и быть не может».**

Расейскія чорнасоценцы, аднак, усё-ж паказвалі сябе ў менш чорным сьвятле, чымся іхныя ідэялягічныя спадкаемнікі з пад знаку НТС. Яны, чорнасоценцы, прынамся ня прыкрываліся ані дэмакратычнымі лёзунгамі, ані прагрэсыўнымі тэндэнцыямі, а выступалі такімі, якімі былі. Затое расейскія салідарыстыя не саромяцца выступаць у ролі запраўдных дэмакратаў заходняга тыпу.

Аб «кангрэсе» і ягоных «народных патрабаваньнях» гаварыць шырака няма патрэбы. Тут усё так яснае й бясcумлеўнае, што ані камэнтаваць, ані даводзіць, ані аргумэнтаваць нічога ня прыходзіцца. Астаецца толькі сьцьвердзіць, што «змагары» «за права і свабоду ў Расеі» ня прызнаюць нерасейскім народам Савецкага Саюзу навет і тых «правоў і свабодаў», якія былі вымушаныя пад ціскам гэтых народаў прызнаць ім навет бальшавікі. На падставе нядвузначных сфармуляваньняў «народных патрабаваньняў» астаецца таксама сьцьвердзіць, што ў васобах арганізатараў і ўдзельнікаў «кангрэсу» маем дачыненьне ня толькі з фанатычнымі адзінанедзялімцамі, але з артадаксальнымі рэакцыянерамі, якія бальшыні насельніцтва Савецкага Саюзу адмаўляюць элемэнтарных правоў на іхнае нацыянальнае жыцьцё.

Дык астаецца толькі дзівіцца, як мог захавацца такі парадаксальны анахранізм у наш век дэмакратызму й людзкога поступу! Яшчэ болей прыходзіцца дзівіцца, што такая чорная рэакцыя знаходзіць яшчэ сваіх апякуноў і спонсараў у дэмакратычным і свабодным сьвеце!

**Л. К.**

## АД АДМІНІСТРАЦЫІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**Просіцца ўсіх нашых карэспандэнтаў і прадстаўнікоў падаваць дакладны і поўны адрас «Бацькаўшчыны» пры перасыланьні карэспандэнцыі.**

**Дастаткова каб, прыкладам, не падаць цыфру 19 пасьля назову Мюнхэн, як лісты блудзяць па ўсіх паштовых аддзелах Мюнхэну ды нярэдка зусім не даходзяць да Рэдакцыі.**

**Яшчэ раз паўтараем дакладны адрас «Б-ны»:**

**Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“) (13 b) München 19, Schliessfach 69.**

# Крыху аб адным аглядзе

У «Літаратуры і Мастацтве» з 17-га красавіка гг. зьявіўся артыкул Ул. Калесьніка п. н. «Усебакова асьвятляць гісторыю літаратуры». Фактычна гэта агляд «Нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры» апрацаваных калектывам супрацоўнікаў Інстытуту літаратуры й мастацтва Акадэміі Навук БССР, як дапаможнік для вышэйшых навучальных установаў.

Разгляд самых «Нарысаў» мы пакідаем нашым крытыкам, хоць, як відаць ужо з артыкулу Калесьніка, тут атрымалася падобная гісторыя як зь «Историей БССР». Зьвернем затое ўвагу на некаторыя моманты дадзенага артыкулу савецкага беларускага крытыка.

Перш-на-перш кідаецце ў вочы, што, хоць аўтар і знаходзіць надахопы ў «Нарысах», усё-ж агульная ацэна іх атрымоўваецца дадатняй. Тут мы бачым аж да нуды абрыдлыя і ў бесканцовасьць паўтараныя на ўсе лады заслугі «марксістоўска-ленінскіх прынцыпаў партыйнасьці літаратуры», «сацыялістычнага рэалізму» ды іншых пустых і закасьцянелых схэмаў, узьведзеных у догмы як для савецкіх пісьменьнікаў, так і для крытыкаў.

А вось колькі прыкладаў недахопаў выяўленых аўтарам у «Нарысах»: не ўвязаньне дзейнасьці Ф. Скарыны з культурным рухам на захадзе, адсутнасць належнага месца для Ц. Гартнага, Платона Галавача, Міхася Чарота, ня поўнае насьвятленьне дасягненьняў беларускае літаратуры ў 30-ых гадох. Бязумоўна, аб адсутнасьці ў «Нарысах» правільнае ацэны «Нашае Нівы» ды наагул значаньня нашаніўства ў нашай літаратуры, аб адсутнасьці таго-ж належнага месца для, скажам, Ядвігіна Ш, Гаруна ці Дубоўкі — Калесьнік не заікнуўся. Відаць лекцыя, што далі Ларчанцы Абэцэдарскі й Сідарэнка зрабіла сваё. А таму загаловак артыкулу Калесьніка — «Усебакова асьвятляць гісторыю літаратуры» — мае мала супольнага із зьместам артыкулу. Асьвятляць то ўсебакова — але «табу» лепш не кранаць, бо сьлізка й небясьпечна. А ў выніку — ізноў-жа схэма, выпрацаваная і ўсанкцыянаваная Масквой, ды праводжаная й дапільноўваная прадстаўнікамі «старэйшага брата» ў гэтай беларускай, як нядаўна выразіліся, «літаратурнай правінцыі».

Адным зь недахопаў у «Нарысах», паводля Калесьніка — гэта «цьмяныя «дыпляматычныя» фармуліроўкі ў аналізе некаторых твораў. Гэткія «фармуліроўкі затушоўваюць барацьбу ідэялёгій у літаратурным жыцьці, г. зн. вынік атрымліваецца адваротным таму, якога дамагаліся аўтары».

Што-ж Калесьнік хацеў гэтым сказаць? Вось тут і варта прывесьці цэлую цытату, каб паказаць ягоную «фармуліроўку». Ён піша наступнае:

«Ёсьць у Максіма Танка верш «Нашы дарогі», напісаны ў 1937 годзе й апублікаваны ў зборніку «Журавінавы цьвет». Яго тэма — спрэчка паэты-рэвалюцыянэра з дэкадэнткай Н. Арсеньневай і дэкадэцтвам наагул. Дасьледчык абавязаны падыходзіць да верша як да факту гісторыі літаратуры. У пэрспэктыве часу спрэчка Танка набыла яшчэ больш вагі. Узьняліся да значэньня прароцтва радкі:

Нашы дарогі расходзяцца здаўна
пад зорамі,
Ня сустрэціцца ім на пяшчаным
парозе жыцьця...

Час даказаў фактамі, што сто раз меў рацыю Танк, калі лічыў дарогу «чыстай красы» сьлізкаю й злачыннаю дарогай: яна прывяла Арсеньневу й яе хаўрусьнікаў-дэкадэнтаў да палітычнага рэнэгатцтва ц здрады народу. Яны сталі падручнымі фашыстоўскіх катаў у час вайны, а сёньня брэшуць з амэрыканскай падваротні».

Сьмешным было-б тут апраўдваць паэтку Натальлю Арсеньневу й ейную паэзію ў вабліччы таго «закіду» савецкага крытыка. Зрэштай усе-ж мы тут «дэкаданты» й «палітычныя рэнэгаты» з бальшавіцкага гледзішча. Гэта ня новае... А што шлях «чыстай красы» лічыцца ў Савецкім Саюзе сьлізкім і злачынным, дык бязумоўна Танк добра ведаў і ведае, як і кажны іншы падсавецкі паэт ці пісьменьнік. Ці-ж мала зь іх пабывала ў турмах, лягерах, на ссылках?! Таму якраз гэтая падсавецкая паэзія й ня мае нічога супольнага ні з «чыстай красой» ні з красой наагул; для яе неабходна патрэбны запах згарэлае бэнзыны, гною ў калгасным кароўніку ды згнілога кукурузнага сіласу. А што ня толькі Танк, але, думаем, і Калесьнік, маючы змогу, аддалі-б усю макулятуру «сацыялістычнага рэалізму» за адзін «дэкадэнцкі» твор — гэта ўжо іншая справа...

Далей аўтар сьцьвярджае, што «дапаможнік як-бы жахаецца назваць імёны, паказаць канкрэтны твар ворагаў». Можа гэта Калесьніка й зьдзіўляе, але для нас тут нічога новага у гэтым жаху ўкла-

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

# За мінулы тыдзень

(пс) Масква і далей ня спыняе дыпляматычнай акцыі з мэтай абдурваньня дыпляматыі й грамадзтва вольнага сьвету.

10-га травеня Хрушчоў даў інтэрв'ю карэспандэнту амэрыканскай газэты «Нью Ёрк Таймс». Можа хтось знойдзецца наіўны й падумае, што карыфэйны Мікіта зрабіў гэта бяз ніякай задняй думкі — вось проста зьвярнуўся да яго нейкі журналісты й папрасіў інтэрв'ю, а Хрушчоў, быццам-бы ня будучы крамлёўскім верхаводам, адразу пачаў выязычвацца. Такіх ляпсусаў маскоўскія сатрапы ня робяць.

Вось-жа й гутарачы з амэрыканскім журналістым, Хрушчоў рабіў міну ноншалянцкага джэнтэльмэна, аднак, маўляў той, трымаў нос да ветру (бачна яшчэ ня сьцебануў тройчы за руб дваццаць пярцоўкі) і гаварыў ня менш ня больш чымся мог сказаць.

З цэлага гэтага інтэрв'ю на Захадзе было зроблена шмат зашмат шуму і — як у шэксьпіраўскай камэдыі — дзеля нічога. Хрушчоў там не адкрываў Амэрыкі, калі гаварыць вобразна, але ў запраўднасьці рабіў міны быццам-бы намагаецца гэтую Амэрыку адкрыць.

Хрушчоў, як Хрушчоў, заўсёды любіць выказвацца вобразна, таму і цяпер параўноўваў праблему міжнароднай напружанасьці да качана капусты. З гэтага качана трэба адрываць лісток па лістку, каб дабрацца да сэрцавіны, або да качарыжкі. А качарыжкай качана зьяўляюцца ўзаемадачыненьні паміж Амэрыкай і Савецкім Саюзам. Інакш кажучы, Хрушчоў сугэраваў Айзэнгаўэру напляваць на ўсе іншыя лісткі качана, або, выразна сказаўшы, на іншыя дзяржавы, ды дамовіцца паміж сабой адносна падзелу сьвету. Рэч зразумелая, на гэтую афэрту Хрушчоў не атрымаў ніякага адказу. Аднак толькі самы факт такой афэрты мусіць быць вельмі-ж характэрны, як паказьнік мэнтальнасьці маскоўскіх сатрапаў.

Як перадумовы да падзелу сьвету паміж Амэрыкай і Расеяй, Хрушчоў паставіў і ўмовы. Між іншымі адна вельмі характэрная. Цытуем словы Мікіты Хрушчова:

«Але калі ад нас будуць дамагацца выкананьня варункаў накшталт тых, якія высоўвае Дальлес, а менавіта, вызваленьня ад нявольніцтва ўсходня-эўрапэйскіх краінаў. дык у такім выпадку трэба будзе чакаць 200 гадоў, пакуль мы дамовімся, таму, што ў гэтым пытаньні мы непахістныя...»

Адным словам, Хрушчоў выразна даў да зразуменьня: «Перастаньце плявузгаць аб нейкай свабодзе для апанаваных намі Ўсходня-эўрапэйскіх народаў, а давайце пагутарым канкрэтна й рачова».

Ня думаем, што Хрушчоў у сапраўднасьці такі моцны, якім моцным ён выяўляецца ў сваёй гаварыльнай прыладзе, тым больш цяпер, калі ён да грунту растрыбушыў імпэрыю савецкай бюракратыі з жонкамі, цёшчамі, пярынамі й іншым хатнім прычындальлем. Цяпер над «белакаменнай» Масквой — суцэльны пыл, пер'е, смурод, праклёны ды лямaнты. Праз амаль сорак гадоў мантаваны бюракратычны апарат — фундамант бальшавіцкага ладу пакуецца й разьяжджаецца па ўсіх кутках і закутках «матушкі» Расеі й паняволеных рэспублікаў.

Але Хрушчоў заўсёды быў моцны ў гаварыльнай прыладзе. Тым больш, што ніхто яму не перашкаджае, а, наадварот, усе, разьвесіўшы вушы, слухаюць, што крамлёўскі цэцярук балбоча.

Для поўнага вобразу хрушчовіны у хрушчоўскай балбатні, зацытуем такую красачку з асьлінай аселіцы:

«Мне нічога ня ведама аб савецкай цэнзуры, або аб абмежаваньні ў друку й падаваньні навінаў...»

63-х гадовы стары цынік Хрушчоў ня мае уяўленьня, што ў Савецкім Саюзе існуе цэнзура! О, сьвятая наіўнасьць!.. Усё-ж такі мы ня будзем закладацца, што на Захадзе ня знойдзецца такі наіўны (і не адзін), што ахвотна паверыць...

☆

Аднак, або маскоўскія верхаводы не дагаварыліся паміж сабой, або бегаюць за дурненькіх.

Некалькі дзён пасьля таго, як Хрушчоў прапанаваў Айзэнгаўэру трыбушыць качан капусты міжнародных дачыненьняў, Булганін шырака расьпісаўся ў ноце, скіраванай да францускага прэм'ера Моле. Фактычна нота ня трапіла паводля адрасу, бо Моле мусіў апаражніць прэм'ераўскі фатэль. Аднак самая нота — характэрная, як прыклад маскоўскай крывадушнасьці. Вось-жа ў вадрозьненьні ад хрушчоўскага качана капусты, Булганін чаруе Французаў, што фактычна яны — пуп зямлі і, калі Булганін з мос'е Моле дагаворацца і запрыязьняцца, дык усё іншае — драбніца.

Булганін паклікаецца на шматгадовую гістарычную прыязьнь паміж Францыяй і Расеяй, навет на дружбу... Тургенʼева з Флёбэрам. Далей Булганін прапануе Францыі беспасярэднія перамовы аб разбраеньні, быццам-бы ён, Булганін ня ведаў, што Францыя ня мае атамнай зброі, і што ў гэтым выпадку няма ніякага эквіваленту да параўнаньня. Але маскоўскім верхаводам гэта нічога не перашкаджае: «хлусі як найбольш, а больш ёсьць шансаў, што нехта паверыць..» гэбэльсаўскі лёзунг з паводзінамі прысабечаны імі.

Ізноў-жа Булганін забыўся, што некалькі дзён раней нешта падобнае ён пісаў заходня-нямецкаму канцлеру Адэнаўэру. Там ён, наадварот, паклікаўся на традыцыі нямецка-расейскай прыязьні і на... Рапальлё

Думаем, што камэнтары зусім непатрэбныя...

☆

Ад'моўнымі зьявішчамі мінулага тыдня былі ўрадавыя крызысы ў Францыі й Італіі. Найбольш доўгатрывалы ў часох чацьвертай францускай рэспублікі ўрад Моле праваліўся і то ў часе, калі распачаў вельмі-ж энэргічную акцыю супраць апартуністычнай палітыкі ў ваднасінах да суэскіх праблемаў. Масква мае прычыны цешыцца.

У Італіі з урадавай кааліцыі выступіў Сарагат. Да гэтага часу яшчэ ня выясьнілася, ці Сарагат перакакаў Нэньні, ці, наадварот — Нэньні Сарагата. У вапошнім выпадку камуністы таксама мелі-б нагоду цешыцца.

☆

Падарожжа заходня-нямецкага канцлера Адэнаўэра ў Амэрыку, хаця падзея вялікая аднак у сучасны мамэнт ня можа мець бліскучых вынікаў. У Заходняй Нямеччыне пачалася перадвыбарчая кампанія — пэрыяд ліняньня кажнай дэмакратычнай дзяржавы. Тымбольш, што сацыял-дэмакратычная апазыцыя пачала энэргічную акцыю сярод пацыфікацыйных элемэнтаў высоўваючы вельмі-ж прынадныя прапановы вырашэньня амаль нявырашальных нямецкіх праблемаў. Можна залажыцца, што здабыўшы ўладу, Оленгаўэр мусіў-бы кантынуаваць палітыку Адэнаўэра, але-ж і апазыцыю рабіць трэба, а, як трэба, дык толькі дэмагогіяй. Без дэмагогіі апазыцыяй заедзеш недалёка...

# Палітыка й практыка

**(Паводля чацьвертага нумару «Комуніста Беларусі» за красавік 1957 г.)**

### 1. Ні хлеба, ні дзёгцю...

У перадавым артыкуле «Трыумф ідэй ленінізму» гаворыцца: «Пералік прамысловых тавараў старога губернскага Менску абмяжоўваўся півам, сьвечкамі, ладанам, воскам, дзёгцем, каламазьзю, тратуарнымі плітамі ды сяк-так апрацаванай скурай; майстэрні па рамонту брычак лічыліся ўжо даволі салідным прадпрыемствам». Як бачым, «Комуніст Беларусі» сказаў ня ўсё, і мы яго дапаўняем: апрача ўсяго пералічанага ў беларускім Менску было шмат хлеба, вопраткі, мяса, малака, гародніны й шмат усякае ўсячыны; бальшавікі, пачаўшы свой сацыялізм, зьнішчылі сьвечкі, ладан ,воск дзёгаць і навет каламазь; пачаўшы камунізм, яны пачалі стаханаўскімі тэмпамі адмяжоўваць чалавека ад хлеба, мяса, малака, гародніны, вопраткі й абутку; апошнюю дарэвалюцыйную менскую брычку, адрамантаваную апошнім менскім фурманом у вапошнія дні НЭП'у, упакавалі, як вялікую гістарычную каштоўнасьць, у Менскі гістарычны музэй; сталася ўсё гэтак таму, што бальшавікі, будуючы першае «бяскласавае сацыялістычнае» грамадзтва, спрытна ператварылі работнікаў і сялян-калгасьнікаў у пралетарыят, а пралетарыят, паводля Маркса, ня мае нічога: корміцца ён марксысцка-ленінскім духам, апранаецца камуністычнай структурай грамадзтва, «абуваецца» партыйным шальмоўствам і езьдзіць на крутых тэмпах безнадзейнага камунізму..., бо зь Менску «ўва ўсе куткі нашай краіны (чытай СССР — У. Д.), за рубяжы сацыялістычнай айчыны пасылаюць яго магутныя прадпрыемствы сваю выдатную прадукцыю-аўтамабілі, трактары, станкі, веласіпеды, матацыклі.»

Заціраючы сьляды бальшавіцкага зладзейства на Беларусі, невядомы аўтар перадавіцы «Трыумф ідэй ленінізму» піша: «Перагортваючы старыя матарыялы аб беларускай вёсцы, часам пачынаеш сумлявацца... Ці праўда, што пераважнай большасьці сялян ніколі не хапала хлеба да новага ураджаю, што жабракі, калекі і цяжка хворыя запаўнялі беларускія вёскі? Так, усё гэта праўда.»

І праўда, і няпраўда. Мы не пярэчым, што ў шмат якіх беларускіх сялянаў не ставала хлеба да новага ўраджаю, аднак усе беларускія сяляне, што памятаюць старыя часы, могуць прысягнуць перад сьвятым крыжам, што яны жылі ў сто разоў лепей, як жывуць цяпер савецкія калгасьнікі. Жабракі й калекі ішлі ў беларускія вёскі таму, што там было ўсё: і хлеб, і да хлеба; старая беларуская вёска й давала жабраком і калекам, і карміла жабракоў і калекаў. Бязумоўна, беларуская вёска ня была аднастайнай: былі багатыя, сярэднія й бедныя; аднак, як мы ведаем, дабрабыт селяніна не заўсёды вымерваўся адной толькі колькасцяй дзесяцінаў, дабрабыт селяніна залежаў ашчэ ад розуму гаспадара й ад гаспадарскага толку... Калі-ж бальшавікі адабралі ў людзей зямлю, спаралізавалі гаспадарскі толк і замянілі яго камуністычнай бесталкоўшчынай, — у савецкія калгасы ня ідуць ні жабракі, ні калекі, ведаючы, што калгасная сыстэма пакалечыла беларускую вёску й ператварыла ўсіх беларускіх сялянаў у сапраўдных жабракоў. Жабракі і сеюць, і жнуць, і малоцяць, але не сабе, а чорту лысаму... «Комуніст Беларусі» ведае гэта добра. Ведае ён і тое, што бальшавікі пазбавілі беларускага селяніна ягонага імя й ягонае чалавечае годнасьці: ня Рыгор і ня Сымон, а **«конюх»** і **«жарабятнік»**, ня Тэкля і ня Ганка, а **«цялятніца»** і **«сьвінарка»**... Усё ўтраціла й свой колішні зьмест, і сваё колішняе значэньне! Гэтак, значыцца, **«савецкая ўлада калгасны лад у корані пераўтварылі аблічча беларускай вёскі»** (падкрэсьленьне наша — У. Д.).

Адным словам, у калгасах — ні хлеба, ні да хлеба, а ў гарадох — ні дзёгцю, ні каламазі: усё **змазалі** бальшавікі, і жыцьцё пахне камуністычным дзёгцем... «Комуніст Беларусі» называе ўсё гэта «трыумфам ідэй ленінізму», а мы, Беларусы, — **вялікім народным няшчасьцем.**

### 2. «Прароцтва» жандарма...

Сакратар ЦК КПБ Ц. Гарбуноў у сваім вялізарным артыкуле «Магутная жыцьцёвая сіла ленінскай нацыянальнай палітыкі», кланяючыся мошчам Леніна, піша: «Зь перамогай камунізму ўва ўсіх краінах сьвету адбудзецца поўнае зьліцьцё нацый, адамруць нацыянальныя асаблівасьці і мовы. Нацыянальныя культуры разаўюцца ў вадзіную сусьветную сацыялістычную культуру з аднэй агульнай мовай.» Такім чынам, адзін з палітычных жандармаў Беларусі лішні раз падмацоўвае нашыя шматгадовыя цьверджаньні, што камунізм — вораг нацыяў, нацыянальных моваў і нацыянальных культураў ня толькі ў самым Савецкім Саюзе, але і ўва ўсім сьвеце.

### 3. Упадак прапаганды й агітацыі...

Камуністычным друкам беларускі народ ня цікавіцца. Да гэтага ўжо ня першы раз прызнаюцца ня толькі савецкія газэты, але й сам ворган ЦК КПБ «Комуніст Беларусі». У артыкуле «Умела выкарыстоўваць друк у палітычнай рабоце», у якім раскладаецца на лапаткі Бабруйскі раён, чытаем:

«Многія партыйныя арганізацыі недастаткова выкарыстоўваюць друк у масава-палітычнай рабоце. Дрэнна вядзе палітычную работу сярод калгасьнікаў партыйная арганізацыя калгасу імя Фрунзэ. Агіткалектыў тут налічвае звыш 20 чалавек, але работа яго не адчуваецца. Агітатары прадастаўлены самім сабе, іх ніхто ня вучыць, як лепш весьці агітацыйную работу ў масах. Бескантрольнасьць, адсутнасьць клопатаў аб павышэньні майстэрства агітацыі прывялі да таго, што многія агітатары спынілі ўсякую масава-палітычную работу сярод калгасьнікаў...»

Коратка й ясна: **адны агітатары ня ведаюць, што ім рабіць і як рабіць, а другія** (разумнейшыя) **наагул плюнулі на ўсю партыйную агітацыю. У гэтым** самым калгасе дайшло да таго, што, як гаворыцца ў згаданым вышэй артыкуле, «кіраўнікі калгасу здалі літаратуру (прапагандовую, разумеецца — У. Д.) на захаваньне ў кладовую дзе значная частка яе прыйшла ў няпрыгоднасьць.»

Ня лепей выглядае палітычная работа і ў калгасе «Кастрычніцкая рэвалюцыя. Аўтары артыкулу (Р. Муха і С. Марцэлеў) пішуць, што тут «не растлумачылі калгасьнікам навет такія важнейшыя апублікаваныя ў друку матарыялы, як заява ТАСС у сувязі з «дактрынай Айзэнгаўэра», пісьмо Н. А. Булганіна фэдэральнаму канцлеру Заходняй Нямеччыны і іншыя дакуманты, якія паказваюць міралюбную вонкавую палітыку Савецкага Саюзу (добра ведаем гэтую «міралюбную» палітыку! — У. Д.). Да гэтага часу, — гаворыцца далей у артыкуле, — з калгасьнікамі ня вывучан Зварот ЦК КПСС і Савету міністраў СССР да ўсіх работнікаў сельскай гаспадаркі... У гэтым і радзе іншых калгасаў. — бяруцца за галаву аўтары, — агітатары на працягу апошняга году не правялі ні адной гутаркі аб дружбе народаў, савецкім патрыятызьме, саюзе рабочага класа і калгаснага сялянства.»

Вось гэта дык калгас «Кастрычніцкая рэвалюцыя»! Людзі ведаюць, што савецкім інтэрнацыяналізмам жыў ня будзеш.

**Але гэта яшчэ ня ўсё. У** гэтай самай «Кастрычніцкай рэвалюцыі», у калгасе імя Калініна, імя Леніна, імя Суворава, імя Будзённага, імя Фрунзэ (гэта ўсё ў тым самым Бабруйскім раёне! — У. Д.) «зусім няма, — як сьцьвярджаецца ў артыкуле, — нагляднай агітацыі і літаратуры аб перадавым вопыце лепшых жывёлаводаў. Ува многіх сельгасарцелях наглядная агітацыя асядае галоўным чынам у канцылярыях калгасаў».

Добра робяць людзі. Навошта ім той «вопыт», скажам, даяркі Аляксандры Сакун з калгасу «Перамога», або цялятніцы Любы Цэд з калгасу «Гігант»? Няма кароўкі, ня трэба й вяроўкі...

Скардзіцца «Комуніст Беларусі» ў артыкуле Мухі і Марцэлева і на тое, што зусім занядбаныя насьценныя газэты. Але гэта яшчэ паўбяды. Горш тое, што «ў сярэднім па раёну на дзесяць агітатараў прыпадае толькі адзін экзэмпляр «Блакноту агітатара», а ў калгасе імя Суворава, дзе агіткалектыў налічвае 52 агітатары, выпісваецца ўсяго адзін экзэмпляр «Блакноту агітатара»! Ня хочуць Беларусы-«сувораўцы» карміцца прапагандовай камуністычнай мякінай. Зямелькі — вось чаго не стае беларускаму чалавеку!

### 4. Насеньне было, ды сплыло...

У артыкуле «Павышэньне ураджайнасьці — ўсенародная справа» пішацца вось што: «Рэспубліка ў цэлым выканала плян засыпкі збожжавых, бульбы, ільну і некаторых іншых культур... Але малюнак зусім мяняецца, калі паглядзець на тое, чым-жа калгасы і саўгасы зьбіраюцца засяваць свае палі, якая якасьць насеннага матарыялу, яго кандыцыйная прыгоднасьць. Тут ёсьць шмат падстаў для непакою. Вялікую трывогу за лёс будучага ўраджаю выклікае, напрыклад, становішча спраў у калгасах Віцебскай вобласьці і, у прыватнасьці, Расонскім, Ветрынскім, Сіроцінскім, Полацкім і некаторых іншых раёнах. У многіх калгасах гэтых раёнаў пакуль што насеньня не хапае, у радзе выпадкаў яно дрэнна захоўваецца, да гэтага часу не ачышчана. Вялікая колькасьць насеннага матарыялу ляжыць у сьвірнах некандыцыйным, не хапае насеньня кармавых культур. У калгасе «Кастрычнік» Полацкага раёну з прычыны безгаспадарчага захаваньня прышло ў няпрыгоднасьць 5 тон насеньня ільну...»

Да сказанага можна дадаць толькі адно: пасьля малацьбы ўся савецкая прэса крычала, што ўсе калгасы рэспублікі пабальшавіцку выканалі пляны засыпкі насенных фондаў, а як бачым — гэта зусім ня так; і гэта ня толькі ў Віцебскай вобласьці — ува ўсіх вобласьцях; можна быць пэўнымі, што сама-ж савецкая прэса вылупіць сябе сваімі розгамі і прынясе нам неўзабаве гэтыя весткі, бо насеньне было, ды сплыло...

**У. Д.**

# З культурнага жыцьця Беларусаў у Польшчы

**(Паводля «Нівы»)**

17-га сакавіка гг. у Варшаве быў наладжаны вечар беларускай паэзіі й песьні. Гэтая імпрэза з багатай і разнастайнай праграмай прайшла вельмі ўдала. На вечары было шмат прысутных небеларускай нацыянальнасьці — жыхароў Варшавы.

У Варшаве жыве каля 5 тысяч Беларусаў; гэта пераважна інтэлігенцыя й студэнцкая моладзь.

✳

Павятовая Ўправа Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Бельску разьвівае шырокую культурную дзейнасьць. Нядаўна зарганізавалі там танцавальную групу, якая налічвае 23 чалавек. Утвораны таксама драматычны гурток, які падрыхтоўвае п'есу Янкі Купалы «Паўлінка', а таксама й харавы гурток.

✳

10-га сакавіка гг. Беларускі жаночы мастацкі калектыў з Гарадка адзначыў трэцію ўгодкі свайго існаваньня.

За працу ў галіне разьвіцьця беларускай культуры Прэзыдыюм Галоўнае Ўправы БГ-КТ узнагародзіў удзельнікаў калектыву грашовымі й кніжнымі ўзнагародамі.

Калектыў прыступіў ужо да падрыхтоўкі новага рэпэртуару песьні, танцаў, а таксама беларускай п'есы «На вёсцы».

Беларускія хоры з Гарадка й Белавежы шырока вядомыя за межамі Беласточчыны. Зарганізаваны ў Беластоку Беларускі ансамбль песьні й танца, даў ужо 14 канцэртаў, на якіх прысутнічала больш за 6 тысяч гледачоў.

Галоўная управа БГ-КТ мае намер зарганізаваць Беларускі драматычны тэатр.

✳

8-га красавіка гг. у Бельску адбыліся два канцэрты Беларускага калектыву песьні й танца зь Беластоку. Багатая й разнастайная праграма калектыву была цёпла й радасна сустрэта бельшчанамі.

✳

З мэтай інфармаваньня польскае прэсы й польскага жыхарства аб жыцьці Беларусаў у Польшчы Галоўная Ўправа БГ-КТ прыступіла да выдаваньня інфармацыйнага бюлетэню ў польскай мове.

✳

Беларускі Выдавецкі Фонд у Польшчы разгарнуў шырокую кампанію зьбіраньня дабраахвотных грашовых складак на пашырэньне беларускага друку ў Польшчы. Праектуецца выданьне паважнае колькасьці як мастацкае так і навуковае літаратуры.

4-га красавіка гг. у Шчэціне зарганізаваўся гурток Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства.

У самым горадзе **Шчэціне жыве некалькі** сот Беларусаў. Гэта пераважна моладзь, якая вучыцца ў розных сярэдніх і вышэйшых навучальных установах Шчэціна. Аднак нямала ёсьць і работнікаў. У Шчэцінскім ваяводзтве таксама жыве шмат Беларусаў.

✳

29 і 30 красавіка ў Белавежы адбыўся першы зьезд беларускіх настаўнікаў і загадчыкаў пачатковых і сярэдніх школаў. Тэмай нарадаў было палепшаньне арганізацыі беларускага школьніцтва ў Польшчы.

✳

6 траўня Беларускі народны калектыў песьні й танца, пасьля шматлікіх выступаў у розных мясцовасьцях Беласточчыны — выступіў першы раз у Беластоку ў тэатры ім. Ад. Вэнгеркі. Калектыў даў два канцэрты.

✳

12 траўня Гарадоцкі жаночы мастацкі калектыў даў канцэрт у вёсцы Сьвіслачаны, куды масава прыйшлі й жыхары суседніх вёсак.

✳

У сувязі з 75-й гадавінай з дня нараджэньня Янкі Купалы «Ніва» заклікае ўсё беларускае грамадзтва ў Польшчы належна адзначыць Купалаўскія дні. Газэта побач заклікаў дае сваім чытачом парады, як найлепш арганізаваць гэтыя ўрачыстасьці.

**К. Акула**

# Тараканы ў саладусе

**Камэдыя ў 3-ох дзеях**

**ДЗЕЯЧЫЯ АСОБЫ:**

1. СЬЦЯПАН ПІНКЕВІЧ (ПІНК) — новапрыехаўшы ў Канаду. беларускі селянін, каля 40 год.
2. МАРЫЛЯ — яго жонка, у тым-жа веку.
3. ВАСІЛЬ (БІЛ) — сын, 9-13 год.
4. ТАНЯ (ТОНІ) — дачка, 16-20 год.
5. ДЖОЎ — Канадыец, залётнік Тані, 18-22 гады.
6. ЯНКА ЖЫХАР — старшыня Беларускае Касы Самапомачы, у сярэдніх гадох.
7. МІКОЛА КОРЧ — сакратар тае-ж Касы, 20-24 гады.
8. ДЖАН — канадыйскі фармар, старэйшы.
9. СЯБРА УПРАВЫ КАСЫ.

**ДЗЕЯ ПЕРШАЯ**

Сярэдняй вялічыні пакой бараку транзытнага лягеру. Пасярод — стол і два ўслоны. У вадным кутку ляжаць клункі з вопраткай, у іншым — куча брашураў — «комікаў». Зь левага боку дзьверы. На правай сьцяне люстэрка, пасярод — вакно.

**ЗЬЯВА 1-я**

**Янка Жыхар і Мікола Корч**

Янка сядзіць каля стала, Мікола ходзіць па пакоі, часьценька заглядаючы ў вакно. Абодвы апранутыя палетняму.

МІКОЛА: Ты пэўны, што мы ў іхны пакой трапілі?

ЯНКА: Пэўны?... Нумар вунь, як бык, стаіць на дзьвярох. У чый-жа, калі ня іхны? (Устае ад стала).

МІКОЛА: Дзе ты думаеш яны маглі дзецца? Паведамляў-жа, што на чацьвёртую тут будзем (паглядае на гадзіньнік). А ты ведаеш, што я сягоньня да Шабэлка на вясельле быў запрошаны?

ЯНКА: Ідзі ты!..

МІКОЛА: Запраўды. І змушаны быў адмовіцца, каб людзям гэтым памагчы. Да й ня надта мне хацелася, бо із Полькай жэніцца.

ЯНКА: Зь кім-жа гэта?

МІКОЛА: Хіба-ж ты ня ведаеш?

ЯНКА: З тэй Ядвісяй?

МІКОЛА: Так. Із тэй самай паннай Ядвісяй...

ЯНКА: Мусіць добра яго забрытала...

МІКОЛА: А як-жа! Ды яшчэ як забрытала! Ізноў, як той казаў, адзін з нашых Беларусаў замуж выходзіць.

ЯНКА: Як гэта ты кажаш — выходзіць замуж? Хіба-ж жэніцца?

МІКОЛА: Ды якраз што ня жэніцца, а выходзіць замуж, бо вянчаецца ў польскім касьцеле, хоць сам праваслаўны. Ды баба ўжо парадкам перакруціла яго на свой капыл. Каб ты толькі чуў! Так пшэкае й цоцокае зь ёй папольску, што аж слухаць брыдка. Ужо сябе й Беларусам лічыць перастае.

ЯНКА: Вось яно як. А такі, здаецца, быў сьведамы й добры хлапец.

МІКОЛА (іранічна): Надзвычайна добры. І сяньня нічога нельга яму закінуць, акрамя мяшка на галаву!

ЯНКА: Сьмех на бок, але сумнае зьявішча. Прападаюць нашы людзі — дзе за спадніцу, а дзе за дурніцу...

МІКОЛА: Ну і як-бы гэтаму запабегчы?

ЯНКА: Больш усьведамленьня трэба, актыўнасьці нашых арганізацыяў. Асабліва моладзь трэба зактывізаваць, даць ім спорт, гульні, чытаць павучальныя творы, даклады, ставіць п'есы,.. Божа мой, колькі карыснага можна й трэба было-б зрабіць, абы толькі мага каму...

МІКОЛА: Вось тут, як кажуць, цэлы сабака закапаны, што каб было каму. Праекты — адно, а практычная шэрая штодзённая грамадзкая праца — гэта другое. Зрэшта, слабыя адыйдуць, а моцныя застануцца.

ЯНКА: Між іншага, гаворачы аб мясцовых абставінах і нашых людзях, прыпомнілася мне адно вельмі сьмешнае здарэньне, аб якім нядаўна чуў. Ведаеш, прыехала сям'я — муж і жонка ў Канаду. Пасяліліся ў горадзе. Жанчына хутка завяла знаёмства з суседкай, якойсьці галічанкай, якая лепш ведала мясцовыя парадкі. Вось гэтая суседка — ведаеш як суседзі бываюць: на добрае і благое цябе зьвядуць — толькі зачні слухаць іхных радаў, улажыла жанчыне ў галаву, што тут у Канадзе, бабы ўсе правы за сабой маюць, гэта значыцца, што яны, а ня мужчыны мусяць іншым загадаваць. Нашай жанчыне, ясная рэч, гэта надзвычайна спадабалася і, ня доўга думаючы, пастанавіла яна скаштаваць гэткіх жаночых правоў.

Прыходзіць аднойчы муж з працы і глядзіць, ажно няма вячэры. Думае чалавек, мо баба захварэла ці што. Бярэ і рыхтуе вячэру сам. Але на другі і трэйці дзень — тое самае. Тут ужо пытаецца муж жонку у чым справа, чаму такая раптоўная і бязь ніякіх прычынаў зьмена. А баба яму ў вадказ: — калі ты да гэтага часу ня чуў, што ў Канадзе бабы мусяць панаваць і ўсе правы за сабой маюць, дык найвышэйшы час, каб ужо пераканаўся. Ад гэтага часу ты будзеш ня толькі для сябе, але і для мяне страву рыхтаваць, а я буду сабе рабіць, што мне падабаецца, і табе яшчэ загадваць!

Тут ужо баба перабрала мерку. Муж ня выцерпеў і так яе аплявушыў, што аж зоркі ўбачыла. Выбегла жанчына на вуліцу і крычыць немым голасам, кліча паліцыю. Адкуль не вазьміся, прыбег паліцыянт. Але жанчына ня ўмела паангельску ані слова. Дык плача, крычыць і паказваючы на шчаку ўсё паўтарае: — тут! тут! гэта значыцца, што тут яе муж набіў. Паліцыянт, ня ведаючы у чым справа, думаў, што ей зубы баляць і бярэ ды вядзе яе да дэнтысты. (Абое пачынаюць голасна сьмяяцца). Дэнтысты таксама, ня вядаючы аб што ходзіць, узяў ды вырваў бабе цэлую шчаку зубоў. Прыходзіць бедная да дому й плача. — Няхай яе ліха, гэту Канаду, — няма тут ніякіх жаночых правоў. Мала таго, што муж так мяне зьбіў, дык гэтыя яшчэ палавіну зубоў вырвалі.

МІКОЛА: Добры жарт (сьмяецца).

ЯНКА: Чалавек апавядаў мне й бажыўся, што гэта ня жарт, а чысьцюсенькая праўда...

МІКОЛА: Праўда, такая хіба як маскоўская... (сьмяюцца).

ЯНКА: паглядаючы на гадзіньнік): Ліха яго ведае, што із гэтымі сталася, чакаем ужо паўгадзіны. Слухаў, а калі фармар маніўся прыехаць?

МІКОЛА: Ды неўзабаве, за якое паўгадзіны. Званіў мне, што каля пятай мае быць. (За дзьвярмі чуваць хуткі тупат ног. Дзьверы раптоўна адчыняюцца, убягае Васіль і, убачыўшы двух незнаёмых, скоранька трэснуўшы дзьвярмі, выбягае назад).

ГОЛАС ВАСІЛЯ (за дзьвярмі): Мама! Мама! Нейкія людзі ў нас ёсьць!

ГОЛАС МАРЫЛІ: ... можа гэта і ёсьцека тыя Беларусы...

ГОЛАС СЬЦЯПАНА: Адкуль-бы яны? Ці-ж-бы мы іх ня ўбачылі?

**ЗЬЯВА II-я**

**Тыя-ж, Сьцяпан, Марыля, Таня, Васіль**

Уваходзіць Сьцяпан, за ім Марыля, Таня й Васіль. Усе скромна апрануты. Васіль забіраецца адразу ў куток і разглядае свае кніжкі, часта спадылба пазіраючы на прысутных. Увайшоўшыя з запытаньнем пазіраюць на Янку й Міколу.

ЯНКА: Прабачце, здаецца, што мы добра трапілі... Гэта вы будзеце Пінкевічы?

# Шляхам Д-ра Францішка Скарыны

## (Успаміны)

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

Прызначаны канваір вывез мяне за Прагу і сказаў, каб я ехаў сам. Сьледам за канваірам вярнуўся й я ў Прагу ў той самы інтэрнат. Пасьля гэтага выпадку, што штурхануў нашага пасла больш энэргічна апэляваць да міністэрства замежных спраў, якое й хутка выдала мне часовы дакумант на права жыцьця ў Чэхіі. Адначасна Украінскі Пэдагагічны Інстытут імя М. Драгаманава ў Празе паведаміў мяне аб залічэньні ў лік студэнтаў з запэўненьнем атрыманьня стыпэндыі.

Заставалася пару яшчэ тыдняў да пачатку вучобы ў інстытуце. Каб папоўніць сваю грашовую касу я пайшоў у заработкі. Прынялі мяне на работу пры будове новых дамоў і прызначылі ў памоцнікі да старога Чэха, які прыпраўляў вапну для мураваньня дамоў. Ня маючы практыкі ў такой працы, я па сваёй беларускай натуры, як мага, пачаў падвозіць тачкаю пясок да скрыні. у якой Чэх паволі мяшаў сваёю качаргою вапну. Назіраючы маю працу, Чэх нарэшце пачаў сварыцца й вучыць, як трэба працаваць. Ён меў спрыт, абапёршыся на сваю качаргу, удаваць працуючага й мая руплівасьць была супярэчная тэмпу яго працы. На гэтай першай працы й навуцы Чэха скончыліся мае вольныя й нявольныя перажываньні перад сыстэматычнаю навукаю ў высокіх школах Прагі.

☆

Прага Чэская зьяўляецца адным з старэйшых гарадоў цэнтральнае Эўропы й найгалаўнейшым палітычным, эканамічным і культурным цэнтрам. Геаграфічнае палажэньне Прагі ў цэнтры чэскай катлавіны пры скрыжаваньні найстарэйшых галоўных шляхоў на рэчцы Валтаве паміж вусьцямі яе даплываў Бэронкі й Сазавы ды пры недалёкім яе ўпаданьні ў Лабу (Эльбу) — спрыяла разьвіцьцю й ператварэньні яе ў цэнтр чэскай дзяржаўнасьці. Ужо ў 9-тым веку Прага была значным эканамічным і культурным цэнтрам, што быў у Вышаградзе — рэзыдэнцыі чэскіх князёў. Зь 10-га веку рэзыдэнцыяй чэскіх князёў стаў замак Градчаны. Рэчка Валтава зь яе 13-цю мастамі зьяўляецца галоўнаю восьсю Прагі, што разьляглася па абодвых баках ракі. На левым беразе на ўзвышшы высіцца 1000-годні град Градчаны — цяперашняя рэзыдэнцыя прэзыдэнта. На поўдзень ад яго — багатая архітэктурнымі помнікамі Мала-Страна. На правым беразе Валтавы знаходзіцца Старэ-Места. Градчаны й Старэ-Места злучае мост Карла 4-га. На поўдзень ад Старога-Места знаходзіцца Новае-Места з шырокімі вуліцамі, вялікімі гатэлямі, рэстаранамі, унівэрсальнымі магазынамі, Вацлаўскім праспэктам з помнікам Вацлаву й народным музэем. Усе гэтыя кварталы разам з Вышаградам каля Нова Места твораць ядро Прагі, што вядома пад народным назовам Злата Прага. Не дарма чэскі народ назваў сваю сталіцу залатою, бо бадай найгалаўнейшым залатым аб'ектам яе быў праскі унівэрсытэт, што афіцыйна называецца унівэрсытэтам Карла 4-га ў Празе. Гэты назоў паходзіць ад імя яго заснавальніка чэскага караля Карла 4-га ў 1348 г. У працягу гісторыі Чэхіі унівэрсытэт Карла 4-га згуляў найбольшую ролю ў вызваленьні чэскага народу ад нямецкае нявolі пасьля 1-ае сусьветнае вайны.

Яшчэ ў сярэдніх вяках унівэрсытэт Карла 4-га быў цэнтрам чэскага нацыянальнага руху. Асабліва войстрыя формы прыняў гэты рух на пачатку 15-га веку, калі рэктарам гэтага ўнівэрсытэту выбіраўся 2 разы Ян Гус. У вапошніх 2-х чвэрцях 19-га стагодзьдзя найбольшую ролю ў вадраджэньні чэскага народу, які ў гэтым часе дасягнуў апагэю ў сэньсе нямецкае асыміляцыі й пераважна карыстаўся ў жыцьці нямецкай мовай, згуляў Фр. Палацкі — бацька чэскага адраджэньня. Ён напісаў і выдаў гісторыю Чэхіі чэскаю мовай. Чэскі народ паставіў яму помнік — статую ў Пантэоне чэскага музэю. Вучням і пасьлядоўнікам Фр. Палацкага быў праф. філязофіі ўнівэрсытэту Карла 4-га Т. Масарык — першы прэзыдэнт чэхаславацкае рэспублікі з 1918 г. да 1937. Унівэрсытэт Карла 4-га ў Празе зьяўляецца старэйшаю высокаю школаю цэнтральнае Эўропы й першым славянскім унівэрсытэтам.

Чэскія унівэрсытэты ня мелі загадзя вызначанай сыстэмы навучаньня для кажнага сэмэстру гэтак, як тэхнічныя й другія спэцыяльныя школы. Унівэрсытэты кажны год выдавалі кніжку (сэзнам пшэднашэк), у якой падаваліся прозьвішчы прафэсароў зь вымененым іхным навуковым матарыялам і лікам тыднёвых гадзінаў. Кажны студэнт факультэту ўкладаў сам сабе сыстэму, гэта значыць запісваў у свой індэкс тыя навуковыя лекцыі, якія неабходна было праслухаць на працягу мінімум 4-х год з выбранае ім спэцыяльнасьці. Апрача тэарытычных лекцыяў, абавязкава трэба было (я маю на ўвазе прыродаведны факультэт) адрабіць ізьдаць лябараторныя практыкаваньні, прасэмінары й сэмінары. Без залічэньня гэтых абавязкавых дысцыплінаў студэнт ня мог атрымаць абсалюторыі й приступіць да дзяржаўных эгзаменаў. Таму тыя студэнты, якія зь якіхсь прычынаў не змаглі ўкласьці свае сыстэмы, згодна з вымогамі ўнівэрсытэту, трацілі больш часу, а некаторыя пападалі ў лік доўгастудыюючых, або зялезных студэнтаў. Пры такой сыстэме ня было выразнага падзелу студэнтаў па ліку гадоў навучаньня. На лекцыях заўсёды сустракаліся студэнты з розных курсаў і навет з розных факультэтаў. Тэарэтычныя лекцыі можна было не наведваць. Згодна з вымогамі ўнівэрсытэту на пачатку й канцы кажнага сэмэстру прафэсары сьцьвярджалі сваімі ўласнымі подпісамі ў індэксах студэнтаў запісаны й праслуханы навуковы матарыял. Часта студэнты ў канцы сэмэстру шукалі прафэсара, каб узяць ягоны подпіс і таму здараліся досыць камічныя выпадкі. Для прыкладу прыпомню адзін. На прыродаведным факультэце быў ведамы ў цэлым навуковым сьвеце прафэсар батанікі сьв. пам. Вэленоўскі, які ў тым часе быў кіраўніком батанічнага ўнівэрсытэцкага саду. Як навуковец і кіраўнік саду ён, асабліва перад сваімі лекцыямі ў рабочым халаце й кепкаю на галаве штосьць рабіў у садзе. Аднаму студэнту, які ні разу ня быў на лекцыях, трэба было ў канцы сэмэстру здабыць подпіс праф. Вэленоўскага. Гэты студэнт загадзя прыйшоў на лекцыю й, разглядаючы аб'екты ў батанічным садзе, напаткаў праф. Вэленоўскага й думаў, што гэта звыклы работнік. Таму, што ў студэнта была думка аб праф. Вэленоўскім, дык ён пачаў аб ім гутарку. — Скажэце, калі ласка, ці вы добра ведаеце праф. Вэленоўскага? — Чаму-ж ня ведаць — адказаў Вэленоўскі. — Як вы думаеце, ці ён падпіша мой індэкс, бо я ні разу ня быў на яго лекцыях? — Думаю, што падпіша. Калі ласка, наведайце ягоную лекцыю, якая хутка пачнецца ў аўдыторыі во гэтага гмаху. — Вы курыце? Калі ласка, вазьмеце сыгарэту — сказаў студэнт. — Не, я не куру дзякую — адказаў прафэсар. Якое-ж было зьдзіўленьне ў студэнта, калі ён убачыў работніка ў ролі праф. Вэленоўскага. Дзьве гадзіны прыйшлося сядзець яму на лекцыі. Нарэшце лекцыя скончылася й праф. Вэленоўскі пачаў падпісваць студэнтам індэксы. Жаданьне мець подпіс, сказаў: — Я-ж гаварыў вам, што пэўна і цяпер перамагло страх і ў студэнта, які падсунуў праф. свой індэкс. Праф. Вэленоўскі глянуў на яго й, падпісваючы праф. Вэленоўскі падпіша індэкс. Чырвоны, як рак, засаромлены студэнт борзда ўзяў падпісаны індэкс і, як мага, выскачыў з аўдыторыі.

Другою навуковаю ўстановаю, што на працягу 4-х год прыйшлося наведваць мне, быў Украінскі 4-х гадовы Пэдагагічны Інстытут імя М. Драгаманава ў Празе з аддзеламі: філялягічным, гістарычным, фізыка-матэматычным, прыродаведным і мастацкім. У першыя два гады навучаньня, апрача спэцыяльных дысцыплінаў, выкладаліся для ўсіх студэнтаў пэдагагічныя дысцыпліны й пасьля праслуханьня іх адбывалася пасыўная й актыўная практыка ў украінскай гімназіі. Інстытут карыстаўся аўдыторыямі й лябараторыямі ўнівэрсытэту Карла 4-га. У канцы кажнага школьнага году былі абавязкавыя эгзамены, а пасьля атрыманьня абсалюторыі студэнты падавалі пісьмовую працу й складалі вусныя эгзамены перад камісіяй інстытуту й атрымоўвалі дыплём з тытулам пэдагога сярэдніх школ. Лепшым пэдагогам сярэдніх школаў прызначаліся доктарскія стыпэндыі, што стваралі ўмовы далейшага студыяваньня й здабыцьця тытулу доктара. Разам з другімі высокімі ўкраінскімі школамі ў Чэхіі інстытут згуляў немалую ролю на шляху адраджэньня Украіны, а нам Беларусам, што скончылі яго, даў веду для працы на беларускай ніве.

☆

Пасьля рэвалюцыі ў Расеі й захопу бальшавікамі ўлады ў Прагу надыйшло шмат эмігрантоў розных нацыянальнасьцяў, уключаючы й Беларусаў. Урад чэхаславацкае рэспублікі арганізаваў матарыяльную дапамогу эмігрантам у форме арганізацыі нацыянальных і сярэдніх школаў ды стыпэндыяў студэнтам, якія наведвалі чэскія высокія школы. Такім чынам паўсталі высокія й сярэднія ўкраінскія й расейскія школы. Украінцы, зь якімі Беларусы мелі найцясьнейшую сувязь, арганізавалі наступныя школы: унівэрсытэт, пэдагагічны 4-гадовы інстытут імя М. Драгаманава зь гімназіяй і матуральнымі курсамі ў Празе й сельска-гаспадарчаю акадэмію ў Падэбрадах. Для студэнтаў, што студыявалі ў чэскіх высокіх школах, былі арганізаваныя чэскаю ўладаю 2 камітэты: Чэска-Украінскі і Чэска-Расейскі. Гэтыя выдавалі студэнтам стыпэндыі й кантралявалі іх пасьпяховасьць у форме штогадовага мінімуму, які патрэбны быў для далейшага атрыманьня стыпэндыі. Студэнтам, якія не маглі выказацца гэтым мінімумам пасьпяховасьцяў, стыпэндыі прыпыняліся. Абсалютная большасьць беларускіх студэнтаў студыявала ў чэскіх высокіх школах і атрымоўвала стыпэндыі ад Чэска-Украінскага камітэту, ды толькі нязначная колькасьць была ва ўкраінскіх высокіх школах. Да ліку апошняй групы належыў і я. Пасьля першага году студыяў у пэдагагічным інстытуце імя М. Драгаманава я падаўся ў Праскі ўнівэрсытэт Карла 4-га на прыродаведны факультэт. Падвойнае наведваньне адбывалася аж да сканчэньня ў першую чаргу інстытуту, а пасьля й унівэрсытэту.

Залежнасьць вучобы ад стыпэндыі змушала студэнтаў да інтэнсыўнае й сталае працы ў працягу цэлага часу, што неабходны быў для сканчэньня навукі й атрыманьня дыплёму. Умовы паза школамі для студэнтаў былі добрыя. Звычайна недалёка высокіх школаў былі спэцыяльныя дамы, што прызначаліся для студэнтаў, з сталовымі, вучэльнямі галоснымі й ціхімі, пакоямі для адпачынку й чытаньня газэтаў з цэлага сьвету й пакоямі з рознымі гульнямі. Кажны студэнт аплачваў сяброўскія складкі й карыстаўся ўсімі выгадамі такога дому. Для прыкладу ўспомню студэнцкі дом, што быў пабудаваны ІМКА-й недалёка прыродаведнага факультэту Праскага ўнівэрсытэту Карла 4-га. Праўныя сябры гэтага дому кажны год выбіралі студэнцкую ўправу, якая выконвала адміністрацыйную працу, дбала аб парадку й прыстасаваньнях дому да вымогаў студэнтаў. Студэнцтва праводзіла шмат часу ў гэтым доме, асабліва зімою, бо нанятыя для жыцьця пакоі не абаграваліся й таму там студэнты толькі спалі, даўшы нурца пад халодную ўзімку чэскую пярыну. Абеды й вячэры — часамі й бяз гэтае прыемнасьці — былі ў сталовай студэнцкага дому, або іншых. У чэскіх сталовых да абеду не падаваўся хлеб і таму нашыя студэнты часта хадзілі ў эмігранцкія сталовыя, каб зьесьці талерку баршчу й цэдую капу хлеба, што ставіўся на стале. Стыпэндыя атрымоўвалася, але вельмі часта не хапала грошаў да канца месяца й студэнты былі паўгалоднымі. Бясспрэчна, што стыпэндыя была ў вабрэз і не магла задаволіць патрэбы студэнта, які да гэтага ня меў яшчэ чэскай або нямецкай вырахавальнасьці, таму змушаны быў у часе летніх вакацыяў зарабляць грошы фізычнаю працаю. Чэскія інжынеры пры будовах дамоў добра разумелі матарыяльны стан студэнта й ахвотна, калі маглі, прымалі яго часова на работу. Прыпамінаецца, як-бы ўчора гэта было, мая фізычная праца разам зь сябрамі ў вымураваных ужо дамох. Інжынер прызначыў нас на начную працу развозіць ваганеткамі сухі шпур у пакоі над маючую слацца падлогу. Да 12-ае гадзіны ў ночы праца адбывалася нармальна. Затое пасьля гэтае гадзіны й перапынку на пасілкаваньне, нашая здольнасьць да працы была слабейшаю. Часта ваганеткі наляталі адна на другую, у выніку чаго ня толькі рассыпаўся шпур, але прыходзілася і нам самым набіваць сінякі. З надыходам раніцы мы змучаныя ад няпрывычнае начное працы адпачывалі днём, каб з новымі сіламі працаваць у наступную ноч. Цяжкая была праца, але прыемна было ў канцы тыдня атрымаць так патрэбныя чэскія кароны, што стваралі магчымасьць куплі вопраткі, абутку больш сыстэматычнага ўжываньня абеду.

☆

Дэмакратычныя ўмовы чэхаславацкае рэспублікі дазвалялі ўсім нацыянальным групам эмігрантаў тварыць свае арганізацыі, што, як незалежныя рэспублікі ў рэспубліцы, жылі сваім нацыянальна-культурным і палітычным жыцьцём. Нацыянальнае жыцьцё беларускае калёніі ў Празе й існуючая сувязь яе зь Беларусамі ў Польшчы й БССР спрыялі хуткаму росту нацыянальнае сьведамасьці, і хоць рэдкія прыезды ў Прагу беларускіх дзеячоў і пісьменьнікаў дадавалі студэнтам энэргіі ў сыстэматычнай навуковай працы, каб хутчэй вярнуцца да роднага краю і ўключыцца ў працу — барацьбу за поўнае вызваленьне Беларусі. Вельмі добра рэпрадукуецца прыезд у Прагу беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў зь Менску ў асобах: Янкі Купалы з жонкаю, Цішкі Гартнага, Міхася Чарота і М. Зарэцкага. Фатаграфічная картачка паэтаў і пісьменьнікаў з групаю студэнтаў зьяўляецца гістарычнаю памяткаю й заўсёды прыпамінае, што ўсе

(Заканчэньне з 4 бачыны)

---

СЬЦЯПАН: Так Пінкевічы ўсе чатыры. А то вы з Таронта?

МІКОЛА. Так, мы з Таронта, ад Беларускай Касы Самапомачы. Дазвольце тады пазнаёміцца: гэта — Янка Жыхар — старшыня, а я — Мікола Корч — сакратар.

СЬЦЯПАН: Вот тут мая, казаў той, уся сям'я: жонка Марыля й дзеці — Таня й Васіль. (Вітаюцца. Сьцяпан да Васіля). Устань-жа ты, прывітайся. Нацягаў, казаў той, цэлую кучу гэтых кніжак...

ЯНКА: Добра, што любіць кніжкі... А што-ж гэта? О, «комікі»! Ну з гэтага вялікай пацехі мець ня будзеце.

МІКОЛА: Але-ж і прыгожую дачку маеце. Ну, нуу... Колькі-ж год?

МАРЫЛЯ: А ўжо-ж, дзякуй Богу, шаснаццаты пайшоў...

ТАНЯ (сарамяжліва, чырванеючыся): Мама, мне ўжо шаснаццаць даўно скончылася.

МАРЫЛЯ: Ну няхай сабе скончылася. Ды ўжо-ж дзеўка, дзякуй Богу. (Да хлапцоў): Але-ж садзецеся ў нас, садзецеся.

ЯНКА: Я-ж тут і гасьцінец нейкі маю. (Вымае пачку цукеркаў зь кішэні і стараецца даць Васілю. Той не бярэ, паглядаючы на бацькоў).

МАРЫЛЯ (да Васіля): Ну бяры-ж ужо, калі дзядзька дае. (Янка частуе і Таню і кладзе рэшту на стол).

СЬЦЯПАН: Магу спытаць, як гэта самі сюды прыехалі, што мы й ня бачылі?

ЯНКА: Аўтабусам прыехалі, ды ад дарогі пехатой прышлі. А як-жа вы маглі нас бачыць?

СЬЦЯПАН: Дык мы-ж, казаў той, каля лягернай брамы чакалі, ды ўжо і надаела. Баба кажа, што пэўна-ж аўтамабілям прыедуць. Ажно чакаем, глядзім і глядзім, ды нідзе таго аўтамабіля і ня відаць...

ЯНКА: Аўтамабілям? А дзе-ж яго ўзяць той аўтамабіль?

МАРЫЛЯ: Дык вы так доўга ў гэтай Канадзе і яшчэ не нажылі аўтамабіля?

ЯНКА: Мы ўжо і ня так доўга тут, як вам здаецца, толькі па пару гадкоў. Ды вы, мусіць, думаеце, як шмат іншых новапрыбылых, што даляры тут на дрэвах растуць, абы мага зьбіраць толькі...

СЬЦЯПАН: Мы так ня думалі, але ўсё-ж-такі...

МІКОЛА: Ды ўсе нашы грошы ідуць на будову арганізацыі...

МАРЫЛЯ: Як гэта? Вы аддаеце свае прыватныя грошы на арганізацыю?

СЬЦЯПАН: Дык вам, казаў той, арганізацыя ня плаціць? (Мікола і Янка, усьміхаючыся, пераглядаюцца міжсобку).

МІКОЛА: Плаціць? Ці-ж вы думаеце, што мы дзеля грошаў працуем?

СЬЦЯПАН: Дык як, а для чаго? Нашто тады арганізацыя, каб на яе яшчэ грошы распускаць?

ЯНКА: Бачыце, гэта рэч зусім простая. Кажная арганізацыя, пакуль сама сябе ўтрымае, патрабуе выдаткаў, тым больш на чужыне, дзе мала нашых Беларусаў. Вось наша Каса, дык гэта арганізацыя фінансавая, як банк усёроўна. Там людзі ашчаджаюць і адтуль пазычаюць грошы. Нікому дакладаць на яе ня трэба. Але нашае Згуртаваньне, — грамадзкая арганізацыя, дык пакуль яна нажыве якую маёмасьць і сама ўтрымаецца, мусіць быць успамаганая сяброўскімі ахвярамі. Вось на яе мы і ахвяроўваем часта свае грошы. Калі-ж вы пытаецеся, нашто яна, дык вазьмеце хоць і самых: хто-жбы вам памог, каб не яна...

МАРЫЛЯ: Дык от яно як... (паглядае на мужа й дзяцей).

МІКОЛА (усьміхаючыся): Дык вот як справа з аўтамабілямі...

СЬЦЯПАН: Ну, я-ж добра ня ведаў. Думаў, што як у чужых, так і ў нас: — і багатыя людзі, і арганізацыі... можа якую і капейку беднаму на помач падкінуць... (Нязручнае маўчаньне).

ЯНКА (частуючы цыгарэтамі): Курыце, калі ласка. Ды хваліцеся-ж як вам падабаецца Канада.

СЬЦЯПАН: Ды няма тут надта чым, казаў той, хваліцца. Многа яе й ня бачылі, казаў той, тэй Канады. Сядзім во ў лягеры гэтым, як у нары, ужо тры месяцы і сьвету ня бачым, ды ад гультайства няма ратунку. Хоць ты што, працы не даюць і квіта. Каб хоць дзе якога далярку, казаў той, зарабіць, ато...

МІКОЛА: То вы яшчэ нікуды й ня выяжджалі?

СЬЦЯПАН: Ды раз неяк тут сабраліся. Вытрасла баба з панчохі свае гэтых пару фэнігаў...

ТАНЯ (да бацькі): Тата, ня фэнсгаў, а цэнтаў!

СЬЦЯПАН: (да Тані): Ты не мяшай бацьку, як да цябе не гаворыцца. — Дык, казаў той, вытрасла з панчохі тых пару цэнтаў, ды паехалі аўтабусам у Ашаву, каб на гэту Канаду хоць трохі вокам кінуць. Паверыце ці не, абрыдла ўжо ў гэтым лягеры тры месяцы бяз працы тырчэць... Значыцца ходзім мы гэта па тэй Ашаве, абглядаем усякія крамы, а баба мая дык надзівавацца ня можа: А Божа-ж мой, а Божа-ж мой! Але-ж — кажа — Канада! Усяго-ж, усяго чысьценька ўдоваль. Абы толькі грошы! (Хлопцы сьмяюцца).

МІКОЛА: Абы толькі грошы, кажаце...

СЬЦЯПАН: Але-ж, абы толькі грошы. А тут іх, гэтых грошаў, казаў той, як той кот наплакаў. Дык значыцца, стаім мы вунь каля аднае крамы, ды й гаворым. А жыдок выйшаў глядзеў, глядзеў на нас, слухаў нашу гаворку, ды пасьля й кажа да нас так проста панашаму: — Адкуль гэта самі будзеце, калі так спытаць можна? Мы пераглянуліся, зьдзівіўшыся што гэта чалавек найшоўся, што нашу гаворку цяміць. — З-пад Дунілавіч, — баба кажа. А той ізноў да нас: — Уй, то вы з Дунілавіч? А Друю вы знаеце? — Дык чаму-ж ня знаем, — кажам. — От, я там доўгі час краму меў — кажа Жыд, — ды яшчэ цяпер сваякі жывуць там. — Мы, казаў той, толькі адзін на аднаго паглядзелі.

МІКОЛА: Сваяк, кажаце, найшоўся...

СЬЦЯПАН: А як-жа, ды яшчэ які. Гаворку такую разьвёў, а як, а што...

МАРЫЛЯ: Ды дзецям тут надаваў. (Да Тані) Пахваліся-ж, Таня, што табе даў.

ТАНЯ: Нічога такога важнага, істужку:

ВАСІЛЬ: А мне бабл гам[1]) даў, мама!

МАРЫЛЯ: Ды прасіў-жа, каб да яго ў краму ўсё купляць прыходзілі...

МІКОЛА: Гэта-ж само сабой ясна...

СЬЦЯПАН: Дык яно, казаў той, Канада харошая і багатая, але мы тут яе надта яшчэ ня бачылі. Ды й што, казаў той, усё-ўсенька чужое: і мова, і людзі, і жыцьцё...

ЯНКА: А дзе-ж вы ў Нямеччыне былі?

СЬЦЯПАН: У гэтым-жа, у Ватэнштэцкім беларускім лягеры былі. Крышку там на працу хадзіў, дзеці ў школах вучыліся-ж сваіх, дачка ў гімназію хадзіла... Усяк было, і добра, і блага. Надаела-ж было ўжо тое лягернае жыцьцё і думалі, што прыедзем сюды дык хоць сьвет пераменіцца, ажно ізноў лягер... І так вот надакучыла, тры месяцы ўжо бяз працы сядзім. Каб дзе хаця далярку якога падзарабіць...

ЯНКА: Чакайце, маеце яшчэ час. Кормяць-жа хіба вас тут няблага?

СЬЦЯПАН: Яно-ж так, есьці ўволю, казаў той. Але, як кажуць, пад ляжачую калоду й вада не цячэ, а мы-ж не калоды... Дык ужо й прышлося вас прасіць. Свая-ж, думаем, арганізацыя, можа паможа...

МІКОЛА: Добра вы й зрабілі. Толькі раней трэба было. Арганізацыя дзеля таго й існуе, каб памагала. Ну на фарме ўжо працы хопіць. Аджывеце, ды й заробіце...

МАРЫЛЯ: Ну а як-жа тая фарма, калі можна так спытаць?

ЯНКА: (да Міколы): Ты выйдзі, браток, пабач, ці ён ужо часам ня прыехаў, ды можа ня ведае, дзе шукаць нас.

МІКОЛА: Окэй (вылазіць з-за стала і выходзіць). Прабачце мне.

**(Далей будзе)**

